# Голас Радзімы

№ 37 (2127)
14 верасня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.








Сёння ў вёсцы Вольна, цэнтральнай сядзібе эксперыментальнай базы «Вольна-Чарніхова» Баранавіцкага раё[illegible] 1 000 ае жыхароў, бадай, толькі нямногія помняць падслепаватыя хаткі [illegible]слюдзянымі акенцамі пад саламянай страхой. У іх жылі сяляне-беднякі ў былой Заходняй Беларусі, якая да верасня 1939 года належала буржуазнай Польшчы. Пасля ўз'яднання з БССР у вёсцы Вольна стварылі саўгас, гэтай восенню ён будзе святкаваць залаты юбілей. Ужо не адзін дзесятак гадоў «Вольна-Чарніхова» — адна з лепшых і самых багатых гаспадарак Брэстчыны, якая спецыялізуецца на вытворчасці элітнага насення пшаніцы, азімага жыта, [illegible], ячменю. Толькі сёлета чысты прыбытак у «Вольна-Чарніхове» складзе[illegible]ль 3 мільёны рублёў.

Добраўпарадкаваны і быт працаўнікоў гаспадаркі. Ёсць тут тры школы, сучасныя дзіцячыя садзікі, Дом культуры, магазіны, будуецца жыллё. Год ад года растуць рэальныя даходы рабочых і служачых. І таму ўжо не едзе моладзь у іншыя краі шукаць шчаслівай долі, свайго месца пад сонцам, а тыя, хто паехаў некалі, усё часцей і часцей вяртаюцца на зямлю бацькоў — вырошчваць хлеб, саджаць сады.

**НА ЗДЫМКАХ:** хата селяніна-бедняка Заходняй Беларусі. Фота 1939 года; агітатары аб'язджаюць свой выбарчы ўчастак і запрашаюць выбаршчыкаў на галасаванне ў дзень выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі ў кастрычніку 1939 года; у дзіцячым садзе «Сонейка» ў вёсцы Вольна; у старэйшай групе дзіцячага сада выхавальніца Вольга БАЖКОВА займаецца з Сашам ЯФІМЧЫКАМ; члены фальклорна-этнаграфічнага ансамбля вольнаўскага Дома культуры.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.





КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## У ПАЛЁЦЕ «САЮЗ ТМ-8»



У адпаведнасці з праграмай даследавання касмічнай прасторы 6 верасня 1989 года ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-8», які пілатуе экіпаж у саставе камандзіра карабля Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР палкоўніка Аляксандра Віктарэнкі і бортінжынера Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР Аляксандра Сераброва.

Праграмай палёту была прадугледжана стыкоўка карабля «Саюз ТМ-8» з арбітальным комплексам «Мір», якая адбылася 8 верасня, і правядзенне на яго борце запланаваных даследаванняў і эксперыментаў.

Камандзір карабля Аляксандр Віктарэнка нарадзіўся ў 1947 годзе ў Паўночна-Казахстанскай вобласці, закончыў Арэнбургскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў. За час лётнай работы асвоіў дзесяць тыпаў самалётаў. Мае кваліфікацыі «Ваенны лётчык 1 класа» і «Лётчык-выпрабавальнік 3 класа». У атрад касманаўтаў быў залічаны ў 1978 годзе. Свой першы касмічны палёт зрабіў у ліпені 1987 года ў якасці камандзіра савецка-сірыйскага экіпажа, які праводзіў даследаванні і эксперыменты на борце комплексу «Мір». Яму прысвоена кваліфікацыя «Касманаўт 3 класа».

Бортінжынер карабля Аляксандр Сераброў нарадзіўся ў 1944 годзе ў Маскве. Ён закончыў Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут. Займаўся навуковай дзейнасцю на адной з кафедраў гэтага інстытута.

З 1976 года кандыдат тэхнічных навук А. Серброў працуе ў навукова-вытворчым аб'яднанні «Энергія». Удзельнічаў у распрацоўцы, выпрабаваннях і забеспячэнні палётаў касмічных апаратаў.

У атрад касманаўтаў ён быў залічаны ў 1978 годзе, зрабіў два касмічныя палёты: першы — у жніўні 1982 года на караблі «Саюз Т-7» і арбітальнай станцыі «Салют-7», другі—у красавіку 1983 года на караблі «Саюз Т-8». Яму прысвоена кваліфікацыя «Касманаўт 3 класа».

А. Серабpoў з'яўляецца прэзідэнтам усесаюзнага маладзёжнага аэракасмічнага таварыства «Саюз».

НА ЗДЫМКУ: А. ВІКТАРЭНКА (злева) і А. СЕРАБРОЎ—экіпаж для пятай асноўнай экспедыцыі на арбітальны комплекс «Мір».

СТУДЭНЦКІЯ АБМЕНЫ

## ПЕРАКЛАДЧЫКА — НА ПОЛЕ

У аграпрамысловым прадпрыемстве «Горацкае», размешчаным у Горках, стала традыцыяй у летні час выязджаць на поле разам з перакладчыкам. Гэтае лета—не выключэнне. Кіраўнікі і спецыялісты гаспадаркі зноў звярнуліся да «Інтурыста», каб растлумачыць заданне новым рабочым гароднінных плантацый. Таму што маладыя людзі, якія даглядаюць расліны,—грамадзяне Чэхаславакіі, студэнты Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ЧССР. Два тыдні адпрацуюць яны ў «Горацкім», а потым адправяцца ў падарожжа па аднаму з турысцкіх маршрутаў СССР.

Так падтрымліваецца добрая традыцыя абменьвацца летам дэлегацыямі. Мы не толькі прымаем у Беларусі сяброў з брацкай краіны, але і самі адправілі ў ЧССР групу студэнтаў заатэхнічнага факультэта, якіх чакае ў Чэхаславакіі насычаная працоўная і культурная праграма. Усе расходы па абмену групамі будуцца на безвалютнай аснове.

ПОМНІКІ

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ

Выканком Полацкага Савета народных дэпутатаў прыняў рашэнне аб аднаўленні аднаго з шаснаццаці помнікаў, устаноўленых у месцах важнейшых бітваў Айчыннай вайны 1812 года.

Ён быў пабудаваны на народныя грошы (33 тысячы серабром) і адкрыты пры велізарнай колькасці людзей 26 жніўня 1850 года, але затым разбураны ў 1938-м. Арыенціровачны кошт помніка 900 тысяч рублёў, для яго ўзвядзення запатрабуецца 220 тон чыгуну.

Больш стагоддзя назад 2 000 дэталей, 180 медных лістоў, 30 тон кубавога жалеза, упрыгажэнні з высокапробнага золата адлілі і сабралі ў адзіную кампазіцыю ўсяго за паўтара года. Як жа будзе цяпер?

Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры звярнулася да ўсіх, каму дарагія нашы вытокі, з прапановай унесці пасільны ўклад ва ўзвядзенне помніка на рахунак нумар 000700865 у Жылсацбанку горада Полацка.

НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## АДБЫЛАСЯ ДЫСКУСІЯ

Гісторыю не перапішаш, але сёння нам асабліва важна правільна яе чытаць. Аб гэтым ішла размова на навуковай канферэнцыі, прысвечанай 50-годдзю пачатку другой сусветнай вайны. 1 верасня ў ёй прынялі ўдзел вядучыя беларускія вучоныя—гісторыкі, работнікі партыйных і савецкіх органаў, прадстаўнікі грамадскасці сталіцы рэспублікі.

Прамоўцы былі аднадушныя ў тым, што другая сусветная вайна з'явілася вынікам барацьбы імперыялістычных груповак за рынкі збыту, сферы ўкладання капіталаў, сусветнае пананавне.

На канферэнцыі адбылася дыскусія вакол савецка-германскага дагавора 1939 года. Як адзначалі дакладчыкі, пры ўсёй складанасці перадваеннай міжнароднай абстаноўкі не можа быць апраўданы адыход савецкага кіраўніцтва ад ленінскіх прынцыпаў знешняй палітыкі, у выніку чаго гітлераўская Германія раптоўна ператваралася ледзь ці не ў партнёра Савецкай краіны. Разам з тым адзначалася, што канчатковыя вывады рабіць пакуль што рана. Расставіць усе кропкі над «і» павінна спецыяльная камісія, створаная З'ездам народных дэпутатаў СССР.

ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ

## НОВЫ ФАКУЛЬТЭТ У БДУ

Калі пачатак навучальнага года для ўсіх студэнтаў—свята, то для тых, хто вучыцца на аддзяленнях філасофіі і палітэканоміі Белдзяржуніверсітэта імя Леніна, яно двайное. З гэтага навучальнага года тут адкрыўся новы факультэт — філасофска-эканамічны. Да гэтага часу будучыя філосафы і палітэканомы займаліся разам з гісторыкамі.

Стварэнне новага факультэта—толькі адна з многіх мер, якія прымаюцца для развіцця грамадскіх навук. Калектыў выкладчыкаў спадзяецца палепшыць якасць выкладання, весці паглыбленыя навуковыя даследаванні, рыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў.

МАСТАЦКАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ

## «ТУТЭЙШЫЯ» НА АМАТАРСКАЙ СЦЭНЕ

Новы самадзейны драматычны тэатр з'явіўся ў Маладзечне. Яго стварылі сябры аб'яднання «Крывіч». І азнаменавалі яны нараджэнне свайго тэатра спектаклем паводле п'есы Уладзіміра Караткевіча «Кастусь Каліноўскі». Інжынеры і рабочыя, бібліятэкары і журналісты ў вольны ад працы час спяшаюцца на рэпетыцыі ў Дом культуры тых чыгуначнікаў, дзе асталяваўся іх тэатр. Галоўным для сябе яны лічаць прапаганду беларускай культуры, роднай гісторыі. Гэтай мэце і падпарадкаваны рэпертуар.

Зараз тэатр рыхтуецца да пастаноўкі п'есы Янкі Купалы «Тутэйшыя».

ДАПАМОГА З-ЗА МЯЖЫ

## АДГУКНУЛІСЯ ПЕРШЫМІ



Па ініцыятыве Беларускага камітэта абароны міру, Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру, Беларускага таварыства «Радзіма», Беларускага фонду міласэрнасці і здароўя, Таварыства Чырвонага Крыжа БССР, Беларускай епархіі Рускай праваслаўнай царквы быў прыняты Зварот да суайчыннікаў ва ўсіх краінах свету за дапамогай у задавальненні патрэб рэспублікі ў некаторых дэфіцытных прыборах і абсталяванні. Аднымі з першых на Зварот адгукнуліся актывісты заходнегерманскай антываеннай арганізацыі «Хрысціянская служба міру», якія прынялі ўдзел у Другім палітычным паломніцтве з місіяй пакаяння, прымеркаваным да 50-годдзя пачатку другой сусветнай вайны. Яны ўнеслі каля пяці тысяч рублёў у Фонд міру для аказання матэрыяльнай дапамогі жыхарам раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, якія пацярпелі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Імі пачаты таксама збор сродкаў у замежнай валюце для набыцця неабходных дыягнастычных прыбораў і абсталявання.

НА ЗДЫМКУ: члены дэлегацыі «Хрысціянская служба міру» ў Брэсцкай крэпасці.

ШКОЛА ДЭМАКРАТЫІ

# РЭСПУБЛІКА РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

**У краіне ідзе падрыхтоўка да выбараў у рэспубліканскія і мясцовыя органы ўлады. Паўсямесна абмяркоўваюцца праекты законаў аб выбарах.**

Як і чакалася, у законапраектах знайшлі адлюстраванне нацыянальныя асаблівасці рэспублік, традыцыі іх палітычнага і культурнага развіцця, а галоўнае — вопыт нядаўняй кампаніі па выбарах народных дэпутатаў СССР. Крытычны аналіз шэрагу пралікаў і недахопаў гэтай кампаніі даў рэспубліканскім заканадаўцам магчымасць удасканаліць механізм выбараў, і ў першую чаргу працэс вылучэння кандыдатаў у дэпутаты і вызначэння пераможцаў па выніках галасавання.

Напрыклад, на заключным этапе мінулай кампаніі ў некаторых выбарчых акругах колькасць кандыдатаў даходзіла да 20 і нават 30. З іх выбаршчыкі шляхам тайнага галасавання павінны былі выбраць аднаго, але пры ўмове, калі ён атрымае абсалютную большасць галасоў. Калі гэтага не адбывалася, назначалася паўторнае галасаванне.

У сувязі з гэтым заканадаўцы шэрагу рэспублік, у тым ліку РСФСР і Украіны, прапаноўваюць адмовіцца ад шматступеньчатасці выбараў. На іх думку, выбары павінны праводзіцца ў адзін тур, а пераможцы вызначацца простай большасцю галасоў.

Па ацэнках шырокіх колаў савецкай грамадскасці, антыдэмакратычным крокам у развіцці выбарчай сістэмы стала ўвядзенне Вярхоўным Саветам Эстоніі цэнзу аседласці для кандыдатаў у дэпутаты і выбаршчыкаў. У адпаведнасці з гэтым цэнзам выбаршчыкам можа стаць толькі той чалавек, які пражыў у данай выбарчай акрузе не менш за два гады, а дэпутатам — не менш пяці гадоў. Гэтае новаўвядзенне пазбаўляе права выбіраць і быць выбранымі і многіх ваеннаслужачых і студэнтаў, рабочых і служачых, якія нядаўна прыехалі ў рэспубліку з іншых раёнаў краіны, і супярэчыць Канстытуцыі СССР, якая гарантуе ўсім савецкім грамадзянам роўныя выбарчыя правы.

У сваю чаргу, заканадаўцы Азербайджана, Беларусі і Малдавіі прапаноўваюць павысіць культуру выбарчых кампаній. У час мінулых выбараў у гэтых і іншых рэспубліках кандыдаты ў гарачцы барацьбы нярэдка дапускалі рэзкія выпады ў адрас сваіх канкурэнтаў, а часам справа даходзіла нават да дыфамацыі і паклёпу. У сувязі з гэтым у ходзе абмеркавання праектаў узнята пытанне аб неабходнасці ўвесці статус кандыдата, які ахоўваў бы яго гонар і годнасць.

Спрэчкі ідуць з прычыны мэтазгоднасці выбараў дэпутатаў ад грамадскіх арганізацый, як гэта было ў час мінулай выбарчай кампаніі. На думку многіх удзельнікаў дыскусіі, такая практыка дае магчымасць функцыянерам гэтых арганізацый без канкурэнтнай барацьбы атрымліваць мандаты дэпутатаў. Але ў гэтай сістэмы ёсць і абаронцы. Заканадаўцы Украіны, напрыклад, лічаць, што выбары ад грамадскіх арганізацый даюць магчымасць расшырыць прадстаўніцтва ў органах улады розных сацыяльных слаёў грамадства.

Са свайго боку, заканадаўцы Казахстана лічаць, што для таго каб пазбавіцца ад негатыўных момантаў сістэмы выбараў ад грамадскіх арганізацый, іх трэба істотна відазмяніць. Грамадскія арганізацыі павінны пакінуць за сабой права вылучаць сваіх кандыдатаў, а выбары іх у дэпутаты няхай праходзяць у тэрытарыяльных акругах на агульных падставах.

Заканадаўцы большасці саюзных рэспублік прапаноўваюць ліквідаваць акруговыя выбарчыя сходы. На гэтых сходах з ліку 10—20 кандыдатаў акругі для ўключэння ў бюлетэні для галасавання рэкамендаваўся, як правіла, спіс з 3—5 кандыдатаў, і праз гэта «сіта» іншы раз не праходзілі людзі, дастойныя па сваіх палітычных і дзелавых якасцях. А вось у Грузіі і Таджыкістане большасць схіляецца к таму, каб захаваць інстытут акруговых сходаў, змяніўшы іх функцыі. Такія сходы, лічаць у гэтых рэспубліках, пазбавіўшыся ад ролі «прапускнога пункта», павінны стаць своеасаблівым форумам, на якім кандыдаты маглі б выкладаць свае выбарчыя праграмы.

Выказваюцца таксама прапановы зрабіць акруговыя сходы пастаянным органам грамадскага кантролю за дзейнасцю дэпутата з правам яго датэрміновага адклікання.

Згодна з папраўкамі, унесенымі ў Канстытуцыю СССР у канцы мінулага года, вярхоўным органам улады рэспублікі павінен цяпер стаць яе З'езд народных дэпутатаў, які ў сваю чаргу выбірае з свайго складу пастаянна дзеючы заканадаўчы, распарадчы і кантрольны орган дзяржаўнай улады — рэспубліканскі Вярхоўны Савет. Між тым у некаторых рэспубліках дыскуцыруецца пытанне аб немэтазгоднасці мець адначасова два цэнтральныя органы ўлады — З'езд і Вярхоўны Савет. За З'езд рашуча выступаюць дзве буйныя рэспублікі — РСФСР і Украіна. Шэраг іншых рэспублік жадаюць мець у сябе толькі Вярхоўны Савет, які павінен выбірацца прамым тайным галасаваннем.

У РСФСР і на Украіне З'езды плануецца склікаць раз у год, выбраныя імі Вярхоўныя Саветы — па 3—4 разы ў год з працягласцю кожнай сесіі па 10—14 дзён. Пры гэтым у Расійскай Федэрацыі, якую насяляюць дзесяткі народаў і народнасцей, намечана стварыць двухпалатны Вярхоўны Савет, дзе адна з палат будзе вырашаць пераважна нацыянальныя праблемы.

Лейтматыў усіх гэтых праектаў законаў аб выбарах — рэспубліканскія і мясцовыя Саветы павінны набыць усю паўнату ўлады ў сваіх рэгіёнах, каб самастойна вырашаць там палітычныя і сацыяльна-эканамічныя пытанні.

## З УСПАМІНАЎ БЫЛОГА ЧЛЕНА КПЗБ

# У ТОЙ ГОД БЫЛО МНОГА ЯБЛЫКАЎ...

БЫЛОГА ЧЛЕНА КПЗБ, а цяпер персанальнага пенсіянера Пятра Вараб'я ў рэдакцыю «Голасу Радзімы» прывяла публікацыя на яе старонках артыкула пра Ігната Дварчаніна. Гэтага светлага чалавека, выдатнага вучонага, паэта і грамадскага дзеяча Пётр Іосіфавіч лічыць сваім духоўным настаўнікам, які дапамог вясковаму хлопчыку вызначыць жыццёвы шлях, зрабіў з яго свядомага барацьбіта за народную справу.

Гэта сёння мы смела вымаўляем імёны і пішам пра Ігната Дварчаніна, Вацлава Ластоўскага, Фабіяна Шантыра, Аркадзя Смоліча і дзесяткі іншых дзеячаў беларускай культуры і навукі. Яны належаць нашай гісторыі і, будзем спадзявацца, застануцца ў ёй назаўсёды. За вяртанне ж з забыцця імя Ігната Дварчаніна Пётр Варабей змагаўся яшчэ трыццаць гадоў назад. І калі ў Погірах, вёсцы Дзятлаўскага раёна, дзе нарадзіўся І. Дварчанін, адкрылі мемарыяльную дошку, былі сярод прадстаўнікоў улады такія, хто называў П. Вараб'я нацыяналістам.

— Даўняя і доўгая гэта спрэчка, — зазначае Пётр Іосіфавіч, — каго лічыць нацыяналістам, а каго патрыётам. У буржуазнай Польшчы паляк лічыўся прадстаўніком вышэйшай расы. Беларусы — рабы, якія мелі адны абавязкі і ніякіх правоў. Каб раскалоць наша адзінства, палякі праводзілі палітыку акаталічвання. Католікам у першую чаргу прадавалі зямлю, давалі магчымасць вучыць дзяцей. Спрабавалі нас такім чынам расслаіць, узрасціць няроўнасць... Бяда, калі любы народ раптам пачынае прэтэндаваць на нейкую выключнасць. Беларускія нацыяналісты таксама ў свой час не хацелі ні з кім лічыцца.

Нядаўна ўбачыў па тэлебачанні, як члены БНФ у Вільнюсе цалуюцца з Анішчыкам, і крыўдна мне зрабілася. Хіба можна быць такімі неразборлівымі! У гады Вялікай Айчыннай вайны Анішчык служыў рэдактарам нейкай газеты ў Навагрудку. Немцы далі яму ордэн за тое, што прадаваў савецкіх людзей. З немцамі ён і ўцякаў, калі нашы наступалі.

Памятаю, як перад злётам былых членаў КПЗБ я атрымаў ліст ад Фёдара Мураўскага з Каўнаса. Ён папярэджваў мяне пра Анішчыка. «Глядзіце толькі, каб гэта погань не трапіла на наш з'езд, — напісаў ён мне. — Чалавек гэты, куды хочаш пойдзе і будзе шкодзіць, колькі хопіць сіл».

ІГНАТ ДВАРЧАНІН быў настаўнікам і кіраўніком не толькі для Пятра Вараб'я, але і для яго бацькі, дзеда, цёткі, для ўсіх беднякоў Погіраў. Сяло працягнулася аж на два кіламетры і дзялілася на тры часткі — Гараня, Асяродак, Ківіны. Да вялікай радасці сялян, І. Дварчанін расказаў ім, адкуль кожная назва паходзіць. Гараня, ці Араня, — таму што ў гэтай частцы жылі найбольш смелыя людзі, якія пры неабходнасці ўмелі пагарлапаніць, адстойваючы свае правы. Асяродкі, зразумела, — таму, што знаходзіліся ў сярэдзіне сяла. А Ківіны — ад балота, дзе не расла нават трава, а толькі хвошч, якім бабы шаравалі гаршкі.

Па парадзе Ігната Дварчаніна ў сяле адкрылі нелегальную беларускую школку. Праіснавала яна нядоўга, але пакінула след у людскіх душах, бо на занятках вучні вывучалі родную беларускую мову, чыталі творы беларускіх пісьменнікаў, спявалі рэвалюцыйныя песні. Была і свая мастацкая самадзейнасць. У хаце Дварчаніна ставілі «Мікітаў лапаць», «Збянтэжаны Саўка» і многае іншае.

Яшчэ з тых далёкіх гадоў засталося ў памяці Пятра Іосіфавіча мноства вершаў, што друкаваліся ў прагрэсіўных выданнях «Маланка», «Родны край», «Асва», якія моладзь ахвотна чытала і з якімі выступала перад аднавяскоўцамі, бо ў гэтых творах пісалася пра бяспраўе і беднасць насельніцтва крэсаў усходніх, гучаў заклік да барацьбы за незалежнасць.

Пётр Варабей рана прычыніўся да рэвалюцыйнай работы. Яму ішоў толькі 14-ты год, а моладзь вёскі абрала яго камсамольскім важаком. Калі ў доме дзеда паліцэйскія рабілі вобыск, у стале хлопца знайшлі чырвоную зорачку і партрэт Якуба Коласа. Партрэт парвалі, а зорачку паламалі. Затое яшчэ больш умацавалася яго рашучасць змагацца. Мусіць, падштурхоўвала само жыццё, адчуваў падтрымку блізкіх людзей — дзеда, цёткі, у якіх выхоўваўся з маленства, застаўшыся сіратой.

Дзед і цётка былі людзьмі свядомымі і добра разумелі, што збавенне заходніх беларусаў ад эксплуатацыі ва ўз'яднанні з усходнімі братамі. Яшчэ калі немцы наступалі ў першую сусветную вайну, яны пайшлі ў бежанства і сустрэлі Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расіі. Дзеда знявечылі казакі ў час разгону рабочай дэманстрацыі ў Петраградзе. Цётка працавала на Пуцілаўскім заводзе, і яе ставілі ў ахову Леніна, калі ён прыязджаў на сустрэчу з рабочымі. Дарэчы, другая цётка Пятра Іосіфавіча пабывала з мужам у Амерыцы, куды паехалі на заробкі. Муж памёр, і яна з сынам вярнулася дадому.

Прыгадваючы свайго дваюраднага брата, Пётр Іосіфавіч расказаў, што яго ў 1942 годзе разам з іншымі аднавяскоўцамі па-зверску забілі літоўскія карнікі, якія наляцелі ў Погіры: два немцы і трыццаць літоўцаў. Запомнілася, што на чорных фуражках у іх былі чарапы і косці.

— Пабралі людзей, сказалі, што вязуць на работу. Давезлі да ўрочышча Прыдатак, звязалі рукі калючым дротам, паклалі на зямлю. Так звязаным і стралялі ў патыліцу, а потым перавярнулі тварам уверх і для вернасці зноў расстралялі, ляжачых. Вось вам і яшчэ адно страшнае праяўленне нацыяналізму.

Сёння П. Варабей разам з іншымі дабіваецца, каб на месцы расправы над жыхарамі Погіраў быў пастаўлены помнік.

ПАЛІТЭКАНОМІЮ П. Варабей вывучаў потым у партыйнай школе і настаўніцкім інстытуце, але найлепш засвоіў гэту дысцыпліну са слоў Ігната Дварчаніна, якія пачуў на мітынгу ў Погірах. Надта ж ужо зразумелымі былі яго тлумачэнні і пра манаполію, і пра падаткі, якія душылі сялян.

У вёску І. Дварчанін прыехаў пасля абрання яго дэпутатам польскага сейма. На вуліцы сабраўся вялікі сход. Прыйшлі і чатыры паліцэйскія, але ні арыштаваць прамоўцу, ні забараніць яму гаварыць яны не маглі. Асоба дэпутата лічылася недатыкальнай.

Слухалі дэпутата, як прарока.

— Вёска ж наша была бедная-бедная, а людзі галодныя, —прыпамінае Пётр Іосіфавіч.— Бутэлька гарэлкі, пуд жыта і кілаграм цукру былі ў адной цане. На год селянін мог купіць толькі два кілаграмы цукру, на больш грошай не ставала. Скварка і булка толькі на вялікдзень ці каляды. Найчасцей з гнілой бульбы пяклі бонды — тоўстыя бліны, у якія дабаўлялі крыху мукі. Варылі саладуху.

У гаспадарцы найбольш глядзелі каня, карову кармілі трасянкай, таму, здаралася, што пойдзе няшчасная скаціна на балота, і сіл няма нагу выцягнуць.

Мучылі штрафы, бо плацілі іх за тое, што сабака набрахаў на паліцэйскага, што табак самасейкай вырас на агародзе, што слухалі дэтэктарны прыёмнік...

Аднак бясконца павінны былі дзякаваць памешчыку, калі ён даў дазвол высечы самую высокую хвою (яго ўласнасць) і зрабіць громаадвод, бо вёска, асабліва Ківіны, часта гарэла ў навальніцу...

ПЁТР ВАРАБЕЙ у Камуністычную партыю ўступіў у 1934 годзе, прайшоў дэфензіву, турмы, страшныя катаванні. Застаўся нязломленым, перакананым у праваце сваёй справы чалавекам.

Прыход у Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі быў радасцю.

— У той год вельмі ўрадзілі яблыкі, — успамінае Пётр Іосіфавіч. — Прыйшоў першы танк з Наваельні ў Дзятлава. Танкіст мяне цалуе, я — яго. А дзяўчаты ўжо нясуць кошыкі духмяных яблыкаў, частуюць танкістаў. Мы радаваліся. Гучна спявалі песні, якія раней спявалі толькі падпольна. Людзі сустракалі Чырвоную Армію як вызваліцельніцу. Моладзь уздыхнула з палёгкай.

Пётр Варабей стаў членам часовага валаснога камітэта і наразаў сялянам памешчыцкую зямлю. Потым ён вучыўся ў школе міліцыі ў Беластоку, працаваў у Пінскай вобласці. 1 верасня 1941 года прыбыў у Ленінград і ўсю блакаду перажыў там. Пасля вайны вярнуўся на Гродзеншчыну.

Ці ўсё было проста ў жыцці гэтага чалавека пасля верасня 1939 года? Далёка не проста. Трагічна і несправядліва загінулі ў сталінскіх турмах Ігнат Дварчанін і яго блізкія. Ды і сам Пётр Іосіфавіч ніколі не забудзе таго даволі сімпатычнага маладога ленінградскага следчага, які спытаў у яго: «А чаму вас не расстралялі палякі?» Адказаў можа не зусім карэктна, але, відаць, пераканаўча. Адпусцілі. І яшчэ не раз адчуваў недавер да сябе, атрымліваў пасады ніжэйшыя за тыя, якія, улічваючы вопыт і здольнасці, мог бы займаць.

У пенсіянера Пятра Вараб'я многа спраў, таму што ён не цураецца іх, а шукае. Дапамагае музею ў Дзятлаве, працуе ў архівах. Скульптар Уладзімір Лятун працуе над бюстам Ігната Дварчаніна, і кансультацыі Пятра Іосіфавіча вельмі дапамагаюць яму лепш зразумець, асэнсаваць вобраз гэтага светлага высакароднага чалавека. Помнік будзе ўстаноўлены на радзіме Ігната Дварчаніна ў бліжэйшы час.

— Гэта вельмі важна і для нас, заходнікаў, — гаворыць Пётр Варабей, — бо верасень 39-га прынёс нам вызваленне. У артыкуле «Яшчэ адна альтэрнатыва», які быў змешчаны ў «Голасе Радзімы», прафесар Кругалевіч піша, што, якія б ацэнкі ні давалі гісторыкі складанаму заблытанаму перапляценню міжнародных адносін таго часу, акт тэрытарыяльнай кансалідацыі беларускага народа ў 1939 годзе ў рамках адзінай нацыянальнай дзяржавы быў сапраўдным праяўленнем гістарычнай справядлівасці.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ

# ЯК ПТУШКА З ВЫРАЮ

Збіраючыся ў гэтую камандзіроўку, я быў упэўнены, што без цяжкасці адшукаю нашу суайчынніцу з Канады. Адрас у пасёлку Маларыта Брэсцкай вобласці быў вядомы. Аднак пошукі Ганны Хатынюк зацягнуліся надоўга. Аказалася, што яна паехала да радні ў вёску Замшаны. І вось вёска. З дарогі яна хутчэй падобная на маленькі гарадок. Сучасныя двух- і трохпавярховыя дамы. Адразу відаць, што пабудаваны зусім нядаўна. Ну а за імі доўгая-доўгая вуліца, якая працягнулася больш чым на тры кіламетры. Пасля столькіх пошукаў пачаў хвалявацца: раптам госця з Канады паехала яшчэ куды-небудзь.

— Будзем лічыць, што вам пашанцавала. Калі б вы прыехалі ўчора, то ўвогуле мяне б не знайшлі. Мы ездзілі ў Брэст. Я тут апошнія дні, і хочацца яшчэ раз усё паглядзець, каб лепш запомніць да наступнага разу. Бо зноў прыеду, калі змагу, толькі праз некалькі гадоў. І ўвесь гэты час буду жыць успамінамі. Так жыве, напэўна, большасць тых, хто вымушаны век векаваць на чужыне. Вось я пражыла амаль усё жыццё ў Канадзе, але мяне пастаянна цягне сюды, як птушку з поўдня ў родныя мясціны.

Кожны раз, сустракаючы такіх людзей, як Ганна Хатынюк, не перастаеш здзіўляцца, як жа моцна павінны былі любіць сваю зямлю і сваю мову іх бацькі, каб перадаць гэту любоў сваім дзецям, і якім, мусіць, цяжкім было іх жыццё, калі прымусіла вырваць з роднай зямлі векавыя карані.

— Тады ў нашай вёсцы, як і ва ўсёй Заходняй Беларусі, было вельмі нялёгка, — расказваў дзядзька Ганны Хатынюк Зіновій Тарасюк.— Мне дастаўся маленькі кавалачак зямлі, а ў брата ўвогуле нічога не было. Ні зямлі, ні работы. Затое была сям'я, якую трэба было карміць. Вось ён гараваў, гараваў і паехаў на заробкі ў Канаду.

Здарылася гэта праз год пасля таго, як нарадзілася Ганна. Бацька прысылаў грошы, на іх і жылі. Але толькі праз дзесяць гадоў, у 1938, змог ён сабраць дастатковую суму, каб забраць да сябе жонку і дачку.

— Я два разы ў шасцідзесятыя гады ездзіў да брата ў Канаду. — працягваў Зіновій Зіноўевіч. — Магу сказаць, што і там яму давялося нялёгка. Я ўбачыў яго ферму. Такая ж сялянская сядзіба, як і ў нас. Але ж ён купляў, участак сярод лесу, прыйшлося самому ўсё карчаваць, будавацца, заводзіць гаспадарку. Потым толькі пачаў жыць нармальна. Ды і мы цяпер тут не бядуем.

— Не бядуеце, — усміхнулася Ганна Фёдараўна. — Ды вы цяпер жывяце, як паны. Я ж памятаю, што было пры Польшчы

Гэта жанчына сапраўды помніла ўсё. Імёны суседзяў, хто дзе жыў, як жыў. А прайшло ж столькі гадоў. Ганна вырасла на ферме бацькі, потым выйшла замуж за такога ж выхадца з беларускай сям'і. Зноў жылі на ферме. І толькі калі раз'ехаліся дзеці, падышоў час пенсіі і сялянская праца стала не па сілах, пераехалі ў Таронта.

— Вы ведаеце, толькі там я па-сапраўднаму зразумела, чаго мне ўсё жыццё не хапала, — усхвалявана гаворыць Ганна Хатынюк. — Сустрэчса сваімі суайчыннікамі. У Таронта я пазнаёмілася з імі, і гэта дало мне новыя сілы ў жыцці.

З першых дзён пераезду ў горад Ганна Фёдараўна стала наведваць аддзел Федэрацыі рускіх канадцаў. Цяпер яна адна з актывістаў гэтай арганізацыі і прыехала ў нашу краіну па запрашэнню Савецкага таварыства «Родина» і Беларускага таварыства «Радзіма».

— Я вельмі ўдзячная гэтым арганізацыям за прадастаўленую магчымасць пабываць у Маскве і Мінску, за вельмі цёплы прыём, — гаворыць Ганна Фёдараўна. — Але больш за ўсё ўдзячная за тое, што зноў змагла трапіць у родныя Замшаны.

Адзін раз я ўжо пабывала тут. Было гэта ў 1983 годзе. І тая паездка снілася мне ўвесь час, — працягвае яна. — Ну а ў гэты раз мне надарылася магчымасць зрабіць сваім родным сюрпрыз. Я нікому не паведаміла, што прыеду. Мікалай Паўлоўскі — прадстаўнік таварыства «Радзіма» ў Брэсце прывёз мяне ў вёску, а далей я пайшла сама. Вось тут мяне саму чакаў вялікі сюрпрыз. Прыходжу на месца і не пазнаю яго. Прайшла яшчэ раз туды-сюды і не знаходжу ні дома дзядзькі, ні дома сваёй дваюраднай сястры. Села на чамадан і сяджу. Падыходзяць жанчыны і пытаюцца, каго я шукаю. Адказваю. Дык вы ж насупраць іх дамоў і сядзіце, гавораць яны.

Дом дваюраднай сястры Ганны Фёдараўны, дзе мы размаўлялі, сапраўды з першага погляду выклікае здзіўленне. У яго нейкая своеасаблівая атынкоўка, якую мясцовыя завуць «шубай», упрыгожаны ўзорамі, прасторны. Унутры чатыры пакоі, паравое ацяпленне, вада, газ. Усё, як у горадзе. А ў двары працягваецца будаўніцтва.

— Ну, чым не паны?!— яшчэ раз гаворыць Ганна Фёдараўна. — Шкада, што мой бацька не змог усяго гэтага ўбачыць. Вельмі хутка мяняецца жыццё ў вёсцы. Асабліва цяпер. Мы ў Канадзе расказваем адзін аднаму аб сваіх паездках і заўсёды адзначаем гэтыя паляпшэнні. А вось тут мяне не заўсёды разумеюць. Мне ж давялося размаўляць з многімі людзьмі. Калі даведваюцца, што я з Канады, пытаюцца, як мне тут падабаецца. Я гавару, што ўсё падабаецца, а яны, не вераць. Ведаю, у вас многа праблем, ідзе перабудова. Але людзі не могуць зразумець, што мы ж глядзім на Радзіму зусім іншымі вачыма. Вось я проста шчаслівая, што прыехала сюды, бачу лес, поле, хаджу па вёсцы. Нават паветра тутэйшае для мяне радасць.

Я ўдзячная Савецкай уладзе за тое, што яна дала людзям магчымасць мець зямлю, працаваць на ёй і атрымліваць за сваю працу. У майго ж бацькі ў Заходняй Беларусі такой магчымасці не было. Так што я цалкам згодная з вашым кіраўніком. Каб добра жыць, трэба добра працаваць, тады і ў доме, і ў магазінах усё будзе.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

